# Беларускі піонэр

**Няхай жыве 1-е Мая--
сьвята працы і змаганьня!**



# ЯК ПРАЦАВАЦЬ З ЧАСОПІСЬСЮ.

Часопісь каштуе вельмі дорага.

Сапраўды: над кожным нумарам часопісі працуе шмат людзей—і пісьменьнікі, і мастакі, і друкары. Кожны нумар патрабуе шмат часу, працы, сродкаў і сілы. З гэтае прычыны патрэбна кожную часопісь, кожны яе нумар выкарыстаць, як мага лепш, як мага паўней, каб усё гэта не прапала без карысьці.

*Ці ўмеюць піонэры чытаць?* Большай часткай—умеюць. А ці ўмеюць піонэры чытаць часопісь? Большай часткай—не. Паглядзяць малюнак на першай старонцы вокладкі, вясёлыя вершыкі на апошняй, прачытаюць апавяданьне, пералістаюць, пераглядзяць малюнкі у тэксьце і... хопіць. А далей? Найчасьцей і ня ведаюць, што рабіць з ёй. А далей бывае якраз самае цікавае.

Каб зацікавіць усіх часопісьсю, адпаведная камісія ці гурток павінна складаць пуцевадзіцель-плякат для кожнага новага нумару часопісі.

Прыкладна так:

*„Беларускі Піонэр“ № 6.*

| | |
|---|---|
| 1. Кажы, дзе твой сын | Апавяданьне З. Бядулі з жыцьця сялян Зах. Бел. |
| 2. Даглядай свой сад | Што трэба рабіць у садзе вясной. |
| 3. І г. д. | |

Выбрана самае цікавае. Пасьля гэтага можна пералічыць астатні зьмест часопісі. Такі плякат зацікавіць піонэраў, прымусіць іх прагледзець кожную старонку часопісі.

*Трэба шанаваць часопісь.* У нас часта бывае так: атрымаюць сьвежы нумар, усе на яго накінуцца, чытаюць, рвуць, пакуль не атрымаюць новага. Тады стары нумар закідаюць і больш аб ім не ўспамінаюць. Каб часопісь ня гублялася і была заўсёды пад рукамі, трэба набыць вокладку з завязкамі (яе можна зрабіць самому) і трымаць у ёй усе нумары часопісі. Як толькі атрымаеш апошні нумар,—перапляці увесь кamплект (за год).

*Хто гэта павінен зрабіць?* Хто, наогул, павінен арганізаваць працу з часопісьсю?

У атрадзе—зьвяно друку, у школе—гурток прыхільнікаў чытальні ці бібліотэчная камісія. Але абавязкова трэба, каб якая-небудзь організацыя была адказнай за гэту працу.

*Добра чытаць голасна* на занятках зьвяна ў групе, у школьнай клясе, на двары і г. д. Пачынаць трэба з вясёлых вершаў, шарад, калі-небудзь з апавяданьня, якія ёсьць амаль у кожным нумары. Трэба аб часопісі, і пры дапамозе яе, правесьці гутарку. Да гутаркі трэба падрыхтавацца, пагутарыць аб гэтым з павадыром і настаўнікам. Асабліва каштоўнай зьяўляецца такая гутарка з неорганізаванымі дзяцьмі свайго прадпрыемства, свайго двара.

*Часопісь—лепшы памоцнік* у працы. У ёй пішацца пра тое, што больш за ўсё ў сучасны момант цікавіць піонэраў. Праходзіць Міжнародны Дзіцячы Тыдзень—„Беларускі Піонэр“ піша, як яго правесьці, зьмяшчае вершы, песьні і іншы матар'ял. Надыходзіць час вучобы—раіць, як організаваць гарачыя сьнеданьні ў школе, як працаваць фарпосту і г. д. Раіць, як зрабіць лыжы, санкі, як абсталяваць свой клюб, як лавіць рыбу, як працаваць з газэтай, з кніжкай, як даглядаць сад і г. д.

Калі-ж ня знойдзеш таго, што цябе цікавіць, пішы ў рэдакцыю. Яна табе адкажа ці праз часопісь, ці асобным лістам.

*Агітуй за часопісь.* Організуй падпіску на часопісь у асобных зьвеньнях, у школьных групах. Пішы аб ёй у насьценнай газэце і г. д.

Вось некаторыя асноўныя моманты працы з часопісьсю.

Рэдколегія: **Г. Брыгневіч, С. Жураўскі, М. Мамчыц, А. Пякарчык, А. Якімовіч.**

Мастацкая аздоба і малюнкі **Я. Кашкеля.**

Да змаганьня за справу працоўных, будзь гатоў!

# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

УМОВЫ ПАДПІСКІ:
На 1 месяц . . . — р. 20 к.
„ 3 „ . . . . — р. 60 к.
„ 6 „ . . . . 1 р. 20 к.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ. Орган ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
МЕНСК,
Комсамольская, 25

№ 8 КРАСАВІК 1927 г.

## Першамай.

Вясна!.. Вясна! ў далі над краем
Зара вяргіняю цьвіце.
Мы гэты дзень назвалі Маем—
Дзень сьветлай радасьці людзей.

Мінулі грозныя навалы...
Парваны путы-кайданы...
І мы магутным карнавалам
Вітаем моладасьць Вясны.

Вітаем песьняй вызваленьня,
Адвечнай казкаю жыцьця.
Няхай на славу пакаленьням
Над краем зоры шалясьцяць!..

Няхай цьвітуць, не адцьвітаюць
Шыпшыны сонечных зарніц!..
Няхай ад берагу да краю
Гамоняць хвалі ў цішыні!..

Хто з лірай плакаў пры дарозе,
Каго вадзіў жабрачы кій—
Вясне чароўнай на парозе
Кладзе лаўровыя вянкі.

* * *

Агні гараць... Агні ў прасторах.
А думы сочацца, плывуць...
Ў адну любоў зьлёмся скора,
У любоў шырокую, як мора,
Дзе шчасьце ў Вечнасьці для ўсіх!.

Агні цвітуць... і гаснуць цені...
Агні над краем шалясьцяць...
. . . . . . . . . . . . . . . .
Яны прад сонцам на каленях,
І ў кожным гордае імкненьне,—
Парыў няспынны да жыцьця.

Яны ідуць... Ў крыві іх ногі...
Над імі ў замецях Вясна!..
Яны ўміраюць на дарогах
На Ўсходзе й Захадзе ад нас.

І хто яны? Якія людзі?
Мо‘ праўды сьветлае сыны?
Куды ідуць? Чаго там блудзяць?
З якою помстаю для судзьдзяў
Нясуць на сэрцы кайданы?

Яны ідуць напорным крокам
У Краіну сьветлую жыцьця.
Іх час расплаты недалёка!..
Іх думы сокалам высока
На крыльлях сонца шалясьцяць.

Агні гараць... Агні ў прасторах...
А зоры сочацца, плывуць...
Ў адну любоў зьлёмся скора—
Ў любоў шырокую, як мора,
Дзе шчасьце ў Вечнасьці для ўсіх!

Паўлюк Трус.

# Чаму мы сьвяткуем 1-га Мая.

Сьвяткаваньне дня 1-га мая пачалося ў Амэрыцы. Спачатку гэты дзень ня быў днём міжнароднага сьвята працоўных.

У 1884 г. амэрыканскія рабочыя на зьезьдзе Амэрыканскай Фэдэрацыі Працы *) ўхвалілі, каб дабіцца з 1 мая 1886 г. васьмігадзіннага рабочага дня. Гэтая пастанова была спаткана з вялікай радасьцю рабочымі, якія ў вызначаны дзень (1 мая 1886 г.) наладзілі агульную забастоўку з патрабаваньнем ад ураду і капіталістых 8-гадзіннага рабочага дня. Забастоўка была разагнана паліцыяй і шмат удзельнікаў яе расстраляны.

І вось пасьля гэтага ў 1888 годзе зьезд амэрыканскіх рабочых ухваліў і ў далейшым дзень 1-га мая штогод адзначаць дэмонстрацыяй, як дзень пачатку гэроічнай барацьбы рабочых за свае правы.



*Дэмонстрацыя піонэраў у дзень 1-га Мая.*

Міжнародны соцыялістычны конгрэс (зьезд), які адбыўся ў 1889 г. ў г. Парыжы, таксама ўхваліў змагацца за ўвядзеньне 8-гадзіннага рабочага дня ва ўсім сьвеце. А для таго, каб гэта змаганьне мела большы посьпех, трэба было выступаць рабочым усім разам і ў адзін час. Днём такога выступленьня і быў абраны дзень 1 мая, бо на ім спыніліся ўжо амэрыканскія рабочыя яшчэ раней.

Гістарычны дзень 1-га мая становіцца з гэтага часу днём выступленьня міжнароднага пролетарыяту супроць капіталу. Гэты дзень становіцца днём падліку баявых сіл працоўных, днём ахвяраў у імя лепшага будучага.

Апрача гэтага, дзень 1-га мая зьяўляецца сымболем новага, лепшага жыцьця. Гэта новае жыцьцё зьявіцца пасьля вялікай і ўпартай барацьбы за яго, яно зьявіцца новаю вясною для чалавецтва. Калі барацьба між багатымі і беднымі скончыцца, людзі пачнуць жыць зусім інакш.

У жыцьці людзей адбудзецца тое самае, што вясной з прыродай. Жыцьцё пачне тады квітнець багацьцем, здароўем і пекнатой, як першыя кветкі ў маі.

Вось чаму днём сусьветнага сьвята працоўных стаў дзень 1-га мая.

*) Аб'яднаньне рабочых Амэрыкі.




# ПЕРШАЕ МАЯ

*Першамайская прамова, якую сказаў дзецям дзед Якім Самарскі ў 1970 г.*

(Фантазія).

Мілыя дзеткі, сёньня ўвесь сьвет спатыкае вялікае сьвята народаў.

Людзі ўсяго сьвету з вялікай нецярплівасьцю чакаюць гэты дзень і сьвяткуюць яго ўрачыста, жыва, з захапленьнем. Праз паўтары гадзіны вы паедзеце ў электра-цягніку ў сталіцу сьвету—Чырвоную Маскву, куды цяпер з усіх краёў сьвету зьяжджаюцца дзеці на „Тыдзень дзіцячых гульняў“.

Вашы сэрцы ўжо цяпер радуюцца, чакаючы гэтага сьвята, на якім вы спадзяецеся атрымаць шмат вясёлага і цікавага. Але ведаеце, дзеці, ваша выабражэньне ня можа і сотай долі ўявіць таго, што вы ўбачыце і атрымаеце на ўрачыстасьці ў Маскве.

Ня кажучы аб тэатрах, концэртах і прыгожых памяшканьнях, ваша ўвага будзе, разумеецца, зьвернута на толькі што вынайдзеныя электрапляны, на якіх вы здолееце пакатацца ў паветры і абглядзець з высі ўсе гарады і мясцовасьці.

Усюды вас будуць спатыкаць радасна і з павагай, як будучых гаспадароў нашай плянэты.

А якая прыгожасьць, як цікава катацца на ціхаплаваючых паветраных мікраплянах для дзяцей.

Быццам матылькі, пырхаюць у паветры маленькія машыны, напаўняючы паветра то звонкай песьняй, то дзіўнымі гукамі духавой музыкі. Кожная гадзіна, кожная хвіліна на дзіцячых гульнях дадуць вам вельмі шмат цікавага.

Шчасьце і вясёласьць—вашы непадзельныя сябры... Ад вашага погляду таксама не схаваецца тое мора людзей, якія зьявіліся з усяго сьвету на сусьветнае сьвята. Цяпер усе людзі працуюць, усе роўныя, значыцца, усе яны маюць права карыстацца прыгожасьцю і благамі жыцьця.—Дзядуля,—запытаўся раптам дзесяцігадовы хлопчык Міколка,—ты сказаў: „цяпер усе працуюць, усе роўныя,

а хіба-ж калі-небудзь людзі былі няроўнымі і не працавалі ўсе?“.

Усе дзеці зьвярнулі свае погляды на маленькага грамадзяніна Міколку, як быццам кажучы: а ўсё-такі ты, брат, сур‘ёзнае і цікавае пытаньне задаў.

— Так, мой хлопчык, мне тады было 25 гадоў, як на зямлі ўтварылі роўнасьць і братэрства народаў, а да таго часу людзі падзяляліся на дзьве паловы, або, як тады казалі, на дзьве клясы— багатых і бедных. Першыя з даўных часоў захапілі ў свае рукі ўсю зямлю, фабрыкі, лясы, рэкі; самі яны нічога не рабілі, а ўсю працу за іх выконвалі бедныя, якія за сваю працу атрымлівалі самую маленькую плату.

— Дзядуля, чаму-ж бедныя працавалі на багатых? Хіба-ж багатых было так многа, што яны сілай прымушалі бедных здабываць ім багацьце?—задала раптам пытаньне шустрая Альжбетка.

— Зараз і пра гэта скажу,—адказаў сьведка вялікай сусьветнай рэволюцыі.

Багатых тады было значна менш, чым бедных. Затое багатыя вельмі хітра ашуквалі сваіх работнікаў. Яны казалі так: жыцьцё на зямлі ўтварыў бог; каму ён шмат даў, з таго і возьме шмат, а вы, бедныя, павінны цярпліва пераносіць сваю цяжкую нядолю, і бог за гэта дасьць вам узнагароду на небе. Шмат вякоў панавала такая несправядлівасьць. Пролетары шмат працавалі і галадавалі. Урэшце з іх асяродзьдзя зьявіліся людзі, якія здагадаліся аб той мане і ашуканстве, якімі ўладары сьвету атуманілі сьвядомасьць працоўных. Гэтыя людзі пачалі растлумачваць народу праўду, заклікаючы яго злучыцца разам у адну сям‘ю і сілаю скінуць з сябе ярмо.

Уладары сьвету пільна сачылі за чэснымі людзьмі і жорстка іх каралі.

Шмат добрых, шчырых сяброў народу загінула за свае ідэі ад рукі дармаедаў. Аднакжа думкі добрых людзей хутка пашырыліся па ўсёй зямлі, падрываючы карэнькі багатае клясы. Асабліва шмат для вызваленьня чалавецтва ад ўціску багатых зрабіла Комуністычная партыя. У пачатку вялікай рэволюцыі яна праявіла неўявімую сілу, энэргію і адданасьць у справе абароны ўсіх прыгнечаных.

Народ убачыў у гэтай партыі найлепшага свайго хаўрусьніка, сябра і пашоў за ёй,—абвясьціўшы вайну векавым рабаўнікам сваім.

## Помню май.

Помню май...
Цёмны гай
Мне душу ўскалыхнуў...
Ён шаптаў: „засьпявай,
Засьпявай пра вясну...
Засьпявай, заіграй,
У цяні адпачні.
Узбунтуй, зачаруй,
Ўсё вакол ўскалыхні;
Ўскалыхні, прагані
Сум-нуду з гэтых хвой;
Зазьвіні ў цішыні,
Цішыні векавой.
Развaруш гэту глуш,
Абудзі ада сну;
Заіграй, засьпявай,
Засьпявай пра вясну!
Над гальлём ноччу, днём
Віўся хмар карагод...
Я сьпяваў. І кранаў
Струны сэрца майго...
. . . . . . . . .
Не памруць звонкіх струн
Залатыя званы...
Пачакай, цёмны гай,
Пачакай да вясны!

Піонэр **Юлі Таўбін.**

*У дзень першага Мая—дзень міжнароднай зьяднанасьці працоўных ўсіх краёў—наша горачае прывітаньне рабочым і сялянскім дзецям Заходняй Беларусі і Польшчы.*

Вайна цягнулася доўга, з вялікай напруджанасьцю з абодвух бакоў, але жалезная воля паўстаўшых працоўных прывяла да жаданае мэты— роўнасьці і братэрства.

Пасьля клясавай вайны чалавецтва хутка пашло наперад па шляху да камунізму, г. зн., да такога грамадзкага ладу, пры якім мы цяпер з вамі жывём.

— Ах, дзядуля, — закрычаў адзін з слухачоў,—які ты шчасьлівы, што жыў у такі цікавы час!

— Гэта было-б зусім малое шчасьце, калі-б я жыў у вялікі такі час. Я лічу сябе шчасьлівейшым чалавекам на сьвеце таму, што мне давялося прыняць гарачы ўдзел у барацьбе за ўтварэньне і панаваньне соцыялізму.

Ну, дзеткі, вас чакае электрамабіль; праз некалькі гадзін вы будзеце ўжо ў Чырвонай Маскве. Жадаю вам шчасьліва павесяліцца і з увагай аглядзець сусьветную сталіцу.

*Хай песьня сусьветнага вольнага Мая*
*ліецца ад краю да краю!*
*Хай громам над сьветам прамчыцца*
*наш покліч*
*За волю працоўным, за лепшую долю!*

Раю зьвярнуць асаблівую ўвагу на будынак соцыялізму і на помнікі правадыроў вялікай рэволюцыі III Інтэрнацыяналу і Комуністычнай партыі, і асабліва на вялікі маўзалей Леніна, які вы так даўно хацелі пабачыць.

Не забудзьцеся на братэрскай магіле чырвонаармейцаў сьпяяць старасьвецкі хаўтурны марш—„Вы жэртваю палі“, а ад мяне перадайце прывітаньне Матцы-Маскве і скажэце, што дзед Якім, які праліў сваю кроў у Кастрычніку 1917 г. на вуліцах Масквы, яшчэ жыве і духам бадзёры.

Да пабачэньня.

**А. Асокін.**



*Праз некалькі гадзін вы будзеце ўжо ў Чырвонай Маскве.*



# ЯК НЕОРГАНІЗАВАНЫХ АТРАД НАЛАДЗІЎ МАЙСКІ ПАРАД.

Паміж лесу і балота
стаіць вёска Пагалота;
піонэру, комсамолу
там ня знойдзеш;
толькі школу
збудавалі нейкім чынам.
Вось ад гэтае прычыны
пагалотаўскія дзеці
сталі ведаць, як на сьвеце
малышы спраўляюць май...
І рашыў тут Мікалай
назьбіраць хлапцоў, дзяўчатаў,
каб правесьці гэта сьвята.

* * *

Надышоў чаканы май.
Яшчэ з ранку Мікалай
абабег усіх сяброў
і на вуліцы сабраў.
— Так і так—гаворыць,—братцы,
трэба сёньня пастарацца,
і на злосьць усім багатым,
адсьвяткуем сваё сьвята.
Будзем быццам піонэры,
калі прымем усе меры,
каб сягоньня-ж ажыцьцёвіць
крок наш першы, сьмелы, новы.
Трэ' зрабіць чырвоны сьцяг,—
выйдзем з песьняю жыцьця,
мы ў гэтую пару.
Халімончыкаў Пятрусь
прынясе трубу;
Іван
зробіць з бляхі барабан.
Вось і будзе ў нас атрад
і наладзіць ён парад.
Грамадзяне, дык да справы!—
разышліся ўлева, ўправа,
каб сабраць усе прылады
к першамайскаму параду.

* * *

Сонца высака ўзьнялося,
расплятае свае косы.
З агароду, іншы з саду,
хлапчукі нясуць прылады.
Прыцягнулі, нават, бляху,
не хапае толькі сьцягу.
— Дзе-ж то Янка можа быць?..
Ён павінен сьцяг здабыць.

А наш Янка, гэтым часам,
перабраў свае „прыпасы“
і ня мог ніяк рашыць,
што за сьцяг ільга ужыць:
не падходзіць ўсё да густу...
Раптам бачыць—вісіць хуста,
ды чырвоная такая,
што і сьцяг нат ня бывае.
Увабраўшы хлеба лусту,
Янка мерыцца на хусту
(надта-ж сьцяг-бы быў багаты)
і—як толькі маці з хаты—
Янка хусту—цоп... пад паху
і дае адразу маху.

* * *

— Ну, атрад увесь у зборы,—
так важаты ім гаворыць.
Сталі хлопцы у камаду:
— Мікалай, цяпер камандуй!
— Ціха,—я начальнік ваш...
Стройна! Ша-а-гам,
хлопцы, марш!
Два разы сяло прайшлі;
— Стаць!—каманду падалі,
Янку гэтак узяло,
што узьлез ён на шуло
каля бацькавае хаты
і гаворыць, як аратар:
— Беднякі і грамадзяне,
і рабочыя сяляне,
мы сьвяткуем сваё сьвята,
не баімся больш багатых—
хай паспрабуюць крануць!..
Тут атрад і драпянуў.
— Гэй, куды?!—гукае Янка,
Глянуў—матка йдзе ад ганку
і ў руках трымае кол.
— Ах ты гэты... пяскамол,
цэлы дзень шукаю хусты,
каб табе было, гад, пуста!
І калі ён вышаў з хаты?!
Як пачну лупіць вось гада...
Бачыць Янка—дрэнь паперы:
разышліся „піонэры“.
Гоцнуў вобземлю з „трыбуны“,
азірнуся, двойчы плюнуў
і пашоў ён да атраду,—
трэба-ж даць якую раду.

**Г. Асот.**

# ЛЯВОНКАВА ГУЛЬНЯ Ў ЛЕС.

*(Апавяданьне пра „Дзень лесу“).*

Архіп — Лявонкаў бацька — лясьніком служыць, а таму і жывуць яны на краю вялізнага лесу, які завецца „Дубровай“.

Лявонка вельмі любіў хадзіць з бацькам па лесе, распытваць у яго пра розныя лясныя байкі, пра тое, хто Дуброву ўзгадаваў, хто яе пасадзіў, ці сама яна вырасла.

— Тата, чаму вось гэта дрэва непадобна на тое?—запытаецца Лявонка ў бацькі, пералазячы праз ламачча.

— А ці помніш ты, татка, як гэты лес садзілі і хто яго садзіў?..

Архіп сунімецца, аглянецца кругом, знайшоўшы лепшы пянчук, прысядзе, скінуўшы стрэльбу, падзаве да сябе Лявонку, падыме яго і пачне з дзіцём гамонку, бы з старым мужчынам.

— Я, сынку, ня памятую, калі гэты лес садзілі, але ведаю з апавяданьняў майго нябожчыка - бацькі, ад твайго дзеда.

— А хіба ў мяне быў дзед?—пацікавіцца Лявонка.

— А як-жа, сынок?! Ды такі яшчэ чалавек, вечны яму пакой! Таксама служыў лясьніком. Любіў лес, шанаваў яго, днём і ноччу ня сьпіць бывала, а ціханька тупае па сьцяжынках і прыслухоўваецца, ці ня стукае хто-небудзь у лесе тапаром. А ноччу далёка чуваць! Тады была Дуброва ня нашых вяскоўцаў, а пан Ванькович ёю ўладаў.

— Гэта той пан, што цяпер у Польшчы?

— Так, сынок, той самы... Нягодны чалавек! Бывала зойдзеш да яго ў пакоі, дык як вызьверыцца—роўна што зьвер.

Дык вось, сынок, апавядаў мне твой дзядок шмат праўдзівых казак пра нашу Дуброву. Ён тады быў яшчэ дзіцём, ну, можа такім, як зараз ты. Гэта было якраз у гады цяжкай паншчыны.

— А што гэта за паншчына?

— Гэта, сынок, той час, калі ўсе вясковыя людзі працавалі не на сябе, а на пана і панскіх дзетак, а самі галадалі і хадзілі абарванымі. Тады на гэтым месцы быў вялізны сасновы бор. Пану ўздумалася будаваць сабе палацы—тыя самыя палацы, дзе зараз зьмяшчаецца ваша школа, а тут грошай няма. Запрасіў купцоў і прадаў увесь лес. На другі дзень пасьля прадажы панскія гайдукі выгналі ўсіх людзей з бліжэйшых вёсак і за тыдзень - другі апустошылі такі бор. Улетку пан загадаў выкапаць усе старыя пні, зрабіў дзягцярны завод, а потым купіў недзе насеньне і зноў быў засеян лес. Вось з таго часу і расьце наша Дуброва.



Пасадзім малады лес!

— А хто, татка, пасеяў вось гэты маленькі дубок, што расьце каля пянчука?

— Ніхто ня сеяў. Вунь з таго вялікага дубу апаў жалудок, а з жалудка вырас дубок.

— А калі назьбіраць жалудкоў да пасадзіць самому, ці парастуць дубкі?

— Ну, зразумела, парастуць.

Далей Архіп расказаў Лявонку, якое насеньне мае сасна, бяроза, елка, як гэта насеньне пры дапамозе крыльцаў пераносіцца ветрам за цэлыя вёрсты.

Лявонка слухаў бацькавы апавяданьні, глядзеў у гушчарнік лесу і глыбока аб нечым думаў.

* * *

У школе Лявонка яшчэ больш даведаўся ад настаўніка, як трэба садзіць лес, калі, як даглядаць.

Як пачалі асыпацца жалуды, Лявонка лепшых назьбіраў цэлы кош і падвесіў на гары за абаплеціну, а вясною, скародзячы поле пры лесе, тайком ад бацькі паскародзіў крышку і невялічкую завоінку, абапал якой абступаў лес і з трох бакоў стаяў стары плот. Увечар Лявонка ўзяў жалуды, пашоў з імі ў завоінку і пакідаў рэдзенька ў сьвежую ральлю.

На другі дзень раніцаю насьцягваў з лесу невялічкіх, сукаватых вершынак і загарадзіў імі чацьверты бок завоінкі. Ідучы з лесу, Архіп заўважыў, як Лявонка ўвіхаецца каля завоінкі, падышоў да яго і запытаўся:

— Лясьнічок мой, над чым пот праліваеш?

Лявонка зразу аж жахнуўся, але калі ўбачыў, што гэта гаварыў да яго бацька, вінавата ўсьміхнуўся і адказаў:

— Вось дапамажы зацягнуць гэтую вершыну да завоінкі, тады скажу.

Архіп быў пры вясёлым настроі і не захацеў пярэчыць свайму меншанькаму сынку-Лявонку: узяў ды зацягнуў вершыну ў завоінку. Там яму Лявонка расказаў:

— Я тут пасеяў шмат жалудкоў і хачу нагадаваць дубкоў.

— А навошта табе гэтыя дубкі?

— Як навошта?—зьдзіўлена запытаўся Лявонка ў бацькі. Памятаеш, як хацелі ў мінулым годзе слабадзкія комсамольцы накапаць у Дуброве маленькіх дрэўцаў, дык аб'ежчык і забараніў. А цяпер, калі яны захочуць, дык я ім і дазволю накапаць у маім агародчыку колькі ім будзе патрэбна.

Ні то радасна, ні то зьдзіўлена, глядзеў бацька на сваё дзіця, усьміхнуўся сам сабе ў вус, узяў Лявонку за руку і павёў да хаты. Дома Архіп расказаў аб Лявонкавым агародзе. Старэйшы брат насьмяхаўся:

— Наш Лявонка хутка стане багацейшым за ранейшага пана Ваньковіча! Дзіва, столькі лесу закаціў.

Лявонка слухаў братнія словы і злосна яму ўпікаў:

— Якая табе справа да маёй гульні ў лесе?!

Бацька ў гэтым падтрымаў сына і загадаў старэйшым, каб не сьмяяліся з Лявонкі: „Чым бы дзіцё не займалася, абы ня плакала“.

Аднойчы, ідучы ў лес, Архіп выняў з пячуркі рукаўчык з насеньнем бярозы і топалю, узяў яго жмень са тры ў газэціну і палажыў у кішэню. А праходзячы між завоінкі, пералез праз плот і пасеяў яго.

Лявонка аб гэтым ня ведаў, але кожны тыдзень бегаў у завоінку і чакаў, калі паўзыходзяць яго дубкі.

* * *

Ад тае вясны, калі Лявонка сеяў жалудкі, прайшло ўжо тры гады. Лявонка запісаўся ў піонэрскі атрад, перайшоў ужо ў старэйшае зьвяно і быў абраны ў савет атраду.

Пасьля аднаго збору атраду, калі ўсе піонэры кінуліся бегчы за мячыкам, Лявонка падышоў да павадыра атраду і запытаўся ў яго:

— Таварыш павадыр, што думае наш атрад аб правядзеньні „Дню лесу“.

— Ды покуль што нічога ня думаў. А якія твае практычныя прапановы?

Лявонка паведаміў павадыра атраду аб сваім лясным агародзе і прапанаваў абсадзіць выгадаванымі ім дрэўцамі пляц, што знаходзіцца каля хаты-чытальні.

Павадыр з радасьцю згадзіўся з такою прапановаю піонэра свайго атраду і, да чарговага збору атраду дзетвары, дагаварыўся з аграномам аб правілах пасадкі лесу.

* * *

Нарабіўшы ямачак на пляцы, піонэры выстраіліся ў роўныя шэрагі і па шляху накіраваліся да Дубровы—да завоінкі, дзе гадуецца Лявонкаў лес.

З атрадам ехала сельсавецкая падвода.

Прышоўшы ў завоінку, дзеці аж зьдзівіліся:

— Вось штукар Лявонка, трэба дадумацца да такой справы!

А Лявонка радасна глядзеў, як дзеці выкопвалі маладзенькія, стройныя дрэўцы, а сам дзівіўся, чаму між дубкоў павырасталі бярозкі і таполі. **З. Гарошын.**

## ПІОНЭРЫ І ВУЧНІ!

**Ці падрыхтаваліся вы да сьвята „Дзень лесу“? Пішэце, як вы правялі гэты дзень што добрага і карыснага зрабілі ў гэта сьвята.**




*(Канец *).*

VII

Час ішоў. Наш гурток бадзяўся, пераходзіў з месца на месца і, здавалася, ніякіх зьмен у жыцьці людзей ня было. Але калі-б прыгледзецца да іх, дык можна было-б заўважыць, што ўсе іх несьвядомыя спробы не прайшлі дарэмна.

Усё часьцей і часьцей можна было бачыць у іх руках якую-небудзь рэч, карыстаньне якой-кольвек прыладай зрабілася звычайным зьявішчам. Вось ужо некалькі разоў яны забілі кіем дробных жывёлаў. Нарэшце, яны ўжо *ведалі* карысьць гэтай рэчы.

Ня ведалі яны толькі, як сьвядома выбраць сабе больш зручную і ёмкую зброю ды ніяк не маглі прызвычаіцца ўвесь час насіць і мець яе пры сабе. Кожны раз, калі мінавала неабходнасьць, яны забываліся і гублялі сваю зброю, а потым на другім месцы набывалі другую.

Аднойчы, калі яны разьмяшчаліся спаць на дрэве, Ра заўважыў на суседнім дрэве нейкую будоўлю з гальля, нібы вялізнае гняздо. Зразумела, ён зацікавіўся і палез туды. Там ён сапраўды ўбачыў пакінутае малпаю гняздо. Прасторнае, прытульнае, прыбранае мяккім лісьцем, — яно зьяўлялася найлепшым прытулкам на нач. Ра разьмясьціўся там, як на ложку. Заўважыў гэта другі хлапец і таксама перабраўся да яго. Месца было досыць, і яны абодва праспалі там так, як ніколі ня спалі.

А калі прачнуліся,—нікога ўжо ня было...

Іхныя бацькі і браты, як заўсёды, прачнуліся рана, сабраліся і пацягнуліся далей. Лічыць яны ня ўмелі, памятаць кожнае не маглі,—так і пашлі сабе ня ведаючы, што двох згубілі...

Вось вышлі яны з лесу і ўбачылі перад сабой глыбокі і шырокі роў, размыты бягучай вадой. Цяпер унізе булькала толькі маленькая крыніца, але ў час дажджу яна буйна разьлівалася.

На беразе рова лес канчаўся, а на другім баку ішла ўжо бязьлесная мясцовасьць. Людзі спусьціліся ўніз і адразу заўважылі, што тутака яны могуць мець вельмі добры прытулак. Стромкі бераг рова ў адным месцы ствараў нібы страху. Можна было схавацца і ад дажджу і ад ветру. З другога боку ўвесь дзень грэла сонца, якому не перашкаджалі дрэвы. На два крокі ніжэй бегла чыстая вада. Адным словам, прытулак на славу.

Некалькі дзён пражылі яны на гэтым месцы. Хадзілі „на пашу“, ці на паляваньне і зноў зьбіраліся дамоў. Усё было-б добра, але з кожным разам прыходзілася адыходзіць усё далей і далей, бо спажывы блізка ўжо не хапала. Але покуль можна было, яны трымаліся на адным месцы.

Аднаго разу „зранку“ іх разбудзіў нейкі грукат, быццам зямля трэслася. Часам сыпалася зямля на галаву. Шум гэты цягнуўся досыць доўга, то бліжэй, то далей, але адчувалася, што ён адбываецца ўверсе, над галавой.

---

*) Гл. „БП“ № 7.

Людзі ўстрывожыліся, пачалі прыслухоўвацца, але ніякай небясьпекі ня было відаць. І вось пачууся страшэнны трэск, мільганула падаючая зьверху верхавіна дрэва, абвалілася зямля, а за ёй паляцела ўніз нейкая гара і заваліла роў.

Каб гэта адбылося на некалькі крокаў бліжэй—нашы людзі прапалі-б, а цяпер толькі некалькіх трохі засыпала, ды дрэва закрыла іхную пяшчэру. Яно ўбілася верхавінай уніз, а вывернутае карэньне трымалася ўверсе.



Чалавек перамог!

Няма чаго і казаць, як перапалохаліся людзі! Але яны зусім скамянелі, калі выглянулі праз гальлё: гара варушылася, дрыгала, груды зямлі разьляталіся ў бакі, а спыненая крынічка паднялася і пераліваласяпраз гэтую грэблю, як вадаспад...

А наверсе тымчасам адбывалася наступнае:

Па лесе ішла вялізарная жывёліна, вельмі падобная да мастадонта, толькі яшчэ большая, бяз хобата, а клыкі-біўні ў яе тырчалі ня ўперад, а проста ўніз. Гэта быў Дынотэры (альбо Дыноцэры), самы вялікі зьвер з пароды сысуноў, якія толькі былі на зямлі (ня лічачы вадзяных). У той час, аб якім тут гаворыцца, яны ўжо зьнікалі; можа, нават, гэта быў астатні.

На яго напалі вядомыя нам махайроды. Абараняючыся ад ворагаў, Дынотэры ўсё адыходзіў, пакуль не падышоў да абрыва. Ён абапёрся задам аб дрэва, якое расло на самым беразе і падрыхтаваўся да абароны. Становішча яго было добрае, бо ён быў забясьпечан ад нападу ззаду.

Але... дрэва ня вытрымала, зламалася, і няшчасны зьвер паляцеў уніз разам з ім...

Дынотэры ляжаў на баку, поперак рова, крэпка сьціснуты з абодвух канцоў. Крыніца паступова размыла зямлю і зноў працерабіла сабе дарогу ўнізе, пад зьверам, як пад мастом. Але Дынотэры быў жывы; некалькі нязначных ран ад клыкоў драпежнікаў яму не пашкодзілі. Ён біўся, хроп, але дарэмна...

Людзі павылазілі з-за свайго дрэва, хацелі ўжо падыйсьці, але раптам вярнуліся назад і схаваліся: у рове зьявіліся махайроды і набліжаліся да сваёй уласнай здабычы.

Тут пачалося нешта такое, ад катрага нават у нашых людзей сьціснулася сэрца. Махайроды накінуліся на жывога зьвера і пачалі яго рваць. А волат толькі дрыжэў, хроп і нічога ня мог зрабіць. У розных мясцох паразрывалі скуру, павыядалі мяса, а Дынотэры ўсё яшчэ быў жывы, бо пры яго велічыні і таўшчыні гэтыя раны ня былі сьмяртэльнымі. І калі махайроды пад'елі і пашлі,—волат застаўся таксама жывы.

Тады падышлі людзі. Даўно яны ня елі мяса, голад прачнуўся, але нешта ўстрымлівала іх кінуцца на жывога зьвера. Прайшоў некаторы час, зьвер усё яшчэ быў жывы, і... паступова адзін за адным людзі прыступіліся да яго...

Добра яшчэ, што махайроды зрабілі пачын, бо інакш людзі ані ў якім разе не маглі-б прадраць скуры.

Але ледзь толькі яны пачалі „сьнедаць“, як зьявіліся гіэны. Гэтыя агідныя стварэньні здалёку чуюць, дзе можна пажывіцца і заўсёды пасьпеюць на частаваньне. Звычайна яны сядзяць збоку і чакаюць, калі дужэйшы зьвер (леў, тыгра) пад'есьць і тады толькі атрымоўваюць рэштткі.

А такіх мізэрных зьвяроў, як тагочасны чалавек, яны зусім не баяліся і не паважалі і адразу сунуліся наперад.

Вось тутака і дапамаглі ранейшыя спробы чалавека па ўжываньню прыладаў або зброі.

Правадыр і Краг ухапілі два сукі і... трэснулі па сьпіне незапрошаных гасьцей. У першы момант здавалася, што гіэны больш дзівіліся ад такога нязвычайнага зьявішча, чымся перапалохаліся. Ніколі яны гэтага ня бачылі!

Потым раззлаваліся і паляцелі ў сапраўдную бойку. Але цяпер ужо ня толькі правадыр і Краг, але ўсе, хто мог, ухапіліся за зброю,—і гіэны павінны былі ўцякаць, пакінуўшы аднаго свайго забітага. Чалавек перамог!.

Перамог ворага ў бойці *з аружжам у руках!*

І гэтая перамога мела для ўсяго чалавецтва куды большае значэньне, чым усе нашыя бойкі з гарматамі, танкамі, бомбамі і г. д.

Чалавек пачуў і ўбачыў, у чым яго перавага, і ад гэтага часу ўжо заўсёды трымаў пры сабе зброю і *сьвядома* карыстаўся ёю.

Праз некаторы час пачуўся ізноў нейкі шум, які ўсё набліжаўся і набліжаўся. Крынічка стала павялічвацца, а праз хвіліну з завароту рова вылецела хваля вады. На момант яна спынілася ля дынатэрыя, закруцілася, паднялася. Вось труп заварушыўся, крануўся з месца.

Вада ўсё прыбывае, напірае, дабіраецца да людзей. Яны палезьлі на дрэва. Вада яшчэ вышэй. Вось дынатэры павярнуўся бокам і паплыў на дрэва, зачапіўся. Людзі сталі сьпяшацца вылазіць вон, некалькі чалавек вылезла, але дрэва ня вытрымала націску і адарвалася ад кораня і шуснула ўніз.



Расьселіся вакол агню і пачалі зварачацца адзін да другога з нейкімі новымі гукамі-сьпевамі.

Вада панесла разам дрэва, людзэй і гнілы труп зьвера...

Усё гэта зрабілася вельмі хутка, але ніякага няшчасьця ня здарылася. Вада таксама хутка прайшла, як і прышла.

Але „дом“ ужо быў сапсуты, вільготны, сьлізкі. Прыходзілася зноў ісьці бадзяцца...

... Зноў шэры дажджлівы дзень. Вечар. Ізноў той самы край лесу, дзе яны былі. Вунь тыя самыя ўзвышшы. А вось і тая самая пяшчэра, адкуль іх калісьці выгнаў гаспадар лесу—леў.

Але што гэта такое? Здаецца, там нешта мільгае, акурат таксама, як калісьці ноччу ў лесе. І прыпомнілася ім тое сьвятло, ласка і цяпло...

Асьцярожна сталі яны падыходзіць да пяшчэры. Сьвет усё мільгае. Падпаўзьлі да выхаду, зірнулі ў сярэдзіну: патрэсквае вогнішча, а ля яго сядзяць... два чалавекі! Прыгледзеліся,—гэта-ж свае: Ра з таварышом!

Хоць ня ўмелі яны гаварыць, але разам усе зарагаталі. Расьселіся вакол агню, сталі зварачацца адзін да другога з нейкімі новымі гукамі-словамі. Хоць і не разумелі яны адзін аднаго, але патрэбнасьць гаварыць была вялікая. Вочы блішчаць, твары радасныя, вось-вось усьміхнуцца.

Ра падкінуў гальля. Полымя весела ўспыхнула і асьвятліла зусім другія новыя твары, праз якія ўжо праціскалася ўсьмешка.

Але вось, каля ўваходу пачуўся нейкі затрыманы, нібы зьдзіўлены рык. Людзі палахліва ўздрыгануліся.

Мільганула галава ільва і зараз-жа з нейкім жалобным візгам зьнікла... Зноў стала ціха. Агонь патрэсківаў, абнімаючы людзей сьвятлом і цяплом.

Людзі зірнулі адзін на аднаго,—і на тварах іх зьявілася першая ўсьмешка.

**Я. Маўр.**

# Культура качаннае капусты.

Насеньне качаннае капусты заўсёды сеюць у расаднікі, за тыдні два да пачатку пасеваў на агародзе.

Расаднікі патрэбна рабіць на ўзвышаным сонечным месцы. Вельмі добра рабіць расаднікі каля сьцен хлявоў, з паўднёвага боку, бо тутака заўсёды бывае цяпляей, чым на адчыненым месцы (зыры).

Найчасьцей расаднікі робяць так, як звычайныя агародныя градкі, а потым бакі іх абкладваюць дошкамі альбо бярвеньнямі, якія павінны ўзвышацца над паверхняю градкі на 3-4 вяршкі. Зрабіўшы такі расаднік, насыпаюць у яго добрае агароднае зямлі, роўным пластам у паўтара-два вяршкі таўшчынёй. Зрабіўшы гэта, сеюць насеньне, прысыпаюць яго дробнай зямлёй праз рэшата і паліваюць зямлю ў расадніку цеплаватай вадой. Каб вада не размывала зямлю, паліўку патрэбна рабіць праз густое рэшата альбо апырскваць расаднік вадой пры дапамозе веніка. Нанач расаднік патрэбна пакрываць саломай альбо саломенымі матамі. Таксама патрэбна пакрываць расаднік і ўдзень, калі здараецца вельмі халоднае надвор‘е.

Як толькі ўсходы расады разаўюць другую пару лісточкаў, робяць другі расаднік, альбо звычайную агародную градку (калі надвор‘е ўжо ўстанавілася досыць цёплае) і перасаджваюць усходы. Перасадку ўсходаў робяць роўнымі радочкамі на адлегласьці 2-х вяршкоў адзін ад другога і такую-ж адлегласьць даюць паміж расьлінамі ў радкох. У кожнай перасаджваемай расьліны кіпцямі адцінаюць частку кораня, тады ён больш расьце ў бакі. Перасаджаныя ўсходы добра паліваюць вадой. З гэтага часу догляд за расадаю зводзіцца, галоўным чынам, к паліўцы, а калі здараецца напад на расаду блашакоў, тады ўвесь расаднік пасыпаюць праз рэшата дробным попелам.

Расаду высаджваюць на агарод найчасьцей у другой палове траўня.

Месца для пасадкі расады заворваюць альбо перакопваюць на глыбіню 6-8 вяршкоў перапрэўшым гноем. На кожны квадратовы сажань кладзецца да 2-х пудоў перапрэўшага гною.

Градак для капусты рабіць не патрэбна. Ляпей капусту садзіць па роўна апрацаваным вучастку радкамі, а калі месца занадта нізкае, забалачваецца ў дажджлівае лета, тады робяць узгоркі і на іх садзяць расаду. Адлегласьць паміж радкамі капусты і паміж расьлінамі ў радох патрэбна даваць ня менш як у 16 вяршкоў. Гусьцей садзіць капусту нельга, бо тады яна расьце слаба. Пасаджаную так расаду добра паліваюць. Паліўку паўтараюць штодзенна, пакуль расада ня прыжыве. Ваду для паліўкі ляпей браць рачную, а калі прыходзіцца карыстацца вадой з студні, то патрэбна яе падаграваць на сонцы, наліўшы ў кадушку. Лепшым часам для паліўкі лічыцца раніца і вечар.

Калі капуста прыжыла і падрасла вяршкі на 2-3, яе абгортваюць зямлёй так, як бульбу. Перад пачаткам завязваньня галовак капусту абгортваюць у другі раз.

Вельмі карысна паліваць капусту навознай жыжкай, якую прыгатаўляюць так: бяруць частку кароўяга калу, дзьве часткі вады, кладуць усё гэта ў кадушку і астаўляюць на 2 тыдні дзе-небудзь у цяньку, кожны дзень рана і ўвечары памешваюць палкай. Праз два тыдні жыжка гатова. Прыбаўляюць яшчэ дзьве часткі вады і паліваюць. Першую паліўку капусты гэтай жыжкай патрэбна рабіць перад першым обгортваньнем, другую—перад другім обгортваньнем і трэцюю, калі пачнуць завязвацца галоўкі капусты.

Каб капуста добра расла, патрэбна час ад часу ўспухліваць глебу паміж радамі, каб яна ўсё лета была пухкая, і зьнішчаць сорныя расьліны.

Лепшымі сартамі капусты для Беларусі лічацца: з раньніх—скарасьпейка, цукровая, маленькая эрфуртская, а з позных—брауншвэйгская, сабураўка і ульмская.

Аграном **К. Хабэнка.**

# Вясновая праца на пасецы.

*Выстаўка пчол.* Першаю работаю на пасецы ўвесну будзе выстаўка пчол з зімовага памяшканьня (амшаньніка).

Як толькі растане сьнег, выбіраюць добры, цёплы дзень. Перш, чым выносіць пчол з зімовага памяшканьня, трэба зрабіць належны парадак на пасецы. Тыя месцы, дзе будуць стаяць вульлі, трэба ачысьціць ад усякага сьмецьця, пасыпаць чыстым пясочкам. Разьмяшчэньне вульляў на вялікіх пасеках робіцца вельмі блізка адзін ад другога ($1\frac{1}{2}$ мэтры), на маленькіх пасеках лепей расстаўляць вульлі ня бліжэй двох мэтраў адзін ад другога.



На малюнку: 1—матка, 2—трутні, рэшта пчолы рабочыя, 3—матачнік, 4—запячатаны матачнік, 5—адчынены матачнік, з якога выходзіць матка, 6—разгрызены пчоламі матачнік.

На выбраных мясцох робяцца падстаўкі, убітыя ў зямлю. Падстаўкі трэба рабіць так, каб вульлі стаялі зусім роўна, бо калі паставіць вульлі нахілена, пчолы будуць няправільна будаваць соты; апошняе можа ўнесьці ненормальнасьць у жыцьці пчол.

*Чарвленьне маткі.* Матка пачынае чарвіць (несьці яечкі) з сакавіка, а іншы раз нават і раней. Для таго, каб са зьнесеных маткаю яечак вывеліся лічынкі (чарвячкі) і каб далей разьвіцьцё іх ішло правільна, трэба, каб у вульлі было цёпла, бо пчолы ня змогуць сагрэць лічынку, і яна згіне.

З гэтае прычыны вясной на вульлёх павінны быць падушкі. На вялікіх пасеках вульлі выносяць ня разам, а па вульлёў 5-10, калі адна частка вульлёў аблетніцца—выносяць другую і г. д.

Пасьля таго, як пчолы пойдуць у палёт і калі ўжо стане вельмі цёпла, трэба абчысьціць дны вульлёў. У гэты-ж час трэба ўпэўніцца, ці досыць у пчол мёду. Раньняй вясной пчолам патрэбен мёд для прыгатаваньня яды для дзетак. Калі-ж мёду ў вульлі мала, матка зьмяншае чарвленьне. Калі пчалавод заўважыць нястачу мёду, ён павінен паклапаціцца аб падкормцы пчол цукрам.

*Падкормка пчол вясной.* Калі ёсьць запасныя рамкі з мёдам, тады збоку гнязда падстаўляюць такую рамку і падкормка гатова. А калі няма мёду, то прыходзіцца падкармліваць пчол распушчаным цукрам („сахарным сіропам“) ці з прымешкай мёду. Для прыгатаваньня расчыну (раствору) бяруць дзьве часткі па вазе мёду ці цукру (пяску) і адну частку вады і кіпяцяць.

Каб мёд ці цукар не прыгарэў, увесь час мяшаюць дзеравянай ложкай. Пену на паверхні расчыну трэба зьнімаць.

Астыўшы расчын наліваюць у пустыя соты і падстаўляюць пчолам у вулей. Можна наліваць расчын у шклянкі ці спэцыяльныя кармушкі. Кармушкі робяцца розных гатункаў (гл. мал. на 14 стар.)

Кормяць пчол з шклянак так: шклянку трэба абвязаць чыстым мокрым палатном і ставіць у перавернутым выглядзе ў асобныя гнёзды, зробленыя ў падушцы. У тым месцы, дзе пастаўлена шклянка з падкормкай, палатно ці клёнку трэба падагнуць. Падкормкі даваць трэба зразу шмат, ня менш 2 кілёграм.

Заміж мёду ці расчыну (сіропу) можна даваць кускавы цукар ці цукровыя пліткі, іх кладуць на рамкі пад палатно.

*Падрабязговы агляд гнёздаў.* Калі стане зусім цёплая пагода, можна зрабіць падрабязговы агляд гнёздаў.

Пры аглядзе асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на працу маткі, на тое, як яна чарвіць. Калі матка нясе яечкі няправільна, з пропускамі, ці ў яе яечках маюцца трутнёвыя лічынкі (чарвячкі), такую матку неабходна зьмяніць. Пры аглядзе гнязда трэба глядзець, каб у вульлі не аставалася шмат трутнёвай вашчыны. Соты, якія заплесьнелі і забрудзіліся, трэба выняць і абчысьціць, а лепш за ўсё зьмяніць на новыя.



Кармушкі для пчол: справа—жасьцяная кармушка, зьлева—кармушка з плоцікам.

Таксама асаблівую ўвагу пры аглядзе трэба зьвярнуць і на здароўе вульля. Калі ёсьць упалыя ці праколатыя крышачкі ў сотах з чарвой, няжывыя лічынкі ці такога колеру, што адрозьніваюцца ад здаровых лічынак, трэба за такім вульлём асабліва прасачыць, а лепш за ўсё запрасіць вопытнага пчаляра паглядзець ці няма гнільца, або якой іншай хваробы.

У гэты-ж час трэба ацаніць сілу гнязда. Калі пчол мала, трэба зьменшыць гняздо, выняць адну ці некалькі рам і ўставіць устаўныя дошкі. А калі рой апрavіцца і матка пачне чарвіць, трэба пашырыць гняздо і паставіць пустыя рамкі з вашчынаю. У выпадку, калі рой застанецца бяз маткі (але рой даволі моцны), трэба памагчы пчолам вывесьці новую матку. Калі ў вульлі ня будзе яечак і маладых лічынак, трэба з другога вульля пераставіць рамку з яечкамі і маладымі лічынкамі.

Пчаляр **С. Бабροўскі.**

# Што чытаць.

Дзеля тых, хто жадае пабудаваць невялікую пасеку пры сваёй сядзібе і вывучыць пчалярскую справу, можна параіць прачытаць некалькі цікавых і карысных кніжак і часопісяй.

**А. Е. Титов** и **М. Н. Зимнев**—Доходное пчеловодство, цена 20 коп.

**В. С. Райковский**—Уход за пчелами в рамочных ульях, цена 12 коп.

**Н. А. Георгиевский**—Весенний уход за пчельником, цена 25 коп.



**И. М. Кваша**—Спутник пчеловода (записная справочная книга на 50 ульев) под редакцией проф. **А. Н. Брюханенко**, цена 75 коп.

**Ф. И. Губин**—Медоносное сельско-хозяйственное растение в связи с различными севооборотами, цена 30 коп.

**С. Дьяченко** — Как соединить рой пчел, цена 10 коп.

**Т. Папендик, Б. Стонповский** — Пчельник на лесной поляне, цена 35 коп.

**М. А. Дернов** — Главные пасечные работы, цена 1 руб.

**А. Н. Брюханенко**—Краткое руководство по пчеловодству для начинающих, цена 60 коп.

**Н. С. Воробьев** — Основные вопросы пчеловодного хозяйства (практическое руководство с 19 рисунками, цена 1 руб. 50 коп.).

**И. И. Кораблев**—Болезни пчел и их лечение, цена 30 коп.

Усю адзначаную літаратуру па пчалярству можна купіць ва ўсіх магазынах выдавецтва РСФСР і ў магазынах і аддзяленьнях БДВ.



# РЫХТУЙЦЕСЯ ДА ДНЮ ДРУКУ.

## Друкаванае слова—магутная сіла.

*(Артыкул старшыні ЦВК СССР і старшыні ЦВК БССР т. А. Чарвякова).*

У сваёй барацьбе супроць буржуазіі і капіталістычнага парадку пролетарыят дабіваўся таго, каб у першую чаргу адабраць ад буржуазіі магчымасьць карыстацца друкаваным словам і зрабіць яго здабыткам выключна клясы працоўных.

Друкаванае слова буржуазія выкарыстоўвала дзеля таго, каб адурманіць масы працоўных, каб замацоўваць сваё панаваньне.

Пролетарыяту патрэбна друкаванае слова, каб высьветліць працоўным усе недарэчнасьці капіталістычнага парадку, каб з'арганізаваць працоўных дзеля барацьбы супроць гэтага парадку і каб накіраваць далейшае разьвіцьцё жыцьця па соцыялістычнаму шляху.



Вось чаму ў Савецкай Рэспубліцы сьвята друкаванага слова мае надзвычайнае значэньне. Яно, з аднаго боку, павінна паслужыць, каб праверыць—ці ў поўнай меры намі выкарыстаны вялікія магчымасьці гэтай заваёвы рэволюцыі, з другога боку—нам трэба высьветліць,—што трэба далей рабіць, каб кожны рабочы і кожны селянін ведаў магутную сілу друкаванага слова і карыстаўся ім, як магчымасьцю прыняцьця актыўнага ўдзелу ў савецкім будаўніцтве.

У сёнешняе сьвята вельмі цікава прасачыць за вынікамі рабселькораўскага і юнкораўскага руху.

Рабочы і сельскі корэспандэнт—гэта ёсьць тыя актывістыя друкаванага слова, якія знаходзяцца ў гушчах рабочых і сялян і адтуль прымаюць удзел у замацаваньні ўлады Саветаў, як дыктатуры пролетарыяту. Яны павінны дапамагаць компартыі ўзварушаць, падымаць і організоўваць сілаю друкаванага слова масы рабочых і сялян дзеля барацьбы за соцыялізм.

За мінулы час рабселькораўскі рух стаў вельмі значным, захапіў шмат рабочых і сялян і аб'яднаў навакол сябе тых, хто сам будуе соцыялізм і кліча другіх да гэтай работы.

Трэба пажадаць, каб гэты рух стаў яшчэ больш значным і каб ён забясьпечыў пасьпешнае карыстаньне друкаваным словам дзеля ўзмацненьня і пашырэньня ўлады Саветаў, дзеля хутчэйшага дасягненьня перамогі соцыялістычнага ладу над капіталістычным.

# Каб не забыцца.

*(З дзеньніка піонэра пра „Дзень Друку“).*

... Сёньня на сходзе атраду гутарылі пра Дзень Друку. Гэта быў падрыхтоўчы сход. Разьмяркоўвалі працу: мне таксама даручана заданьне—пазнаёміць свой канец вёскі (10 хат) з часопісьсю „Беларускі Піонэр“ і газэтай „Беларуская Вёска“ і дабіцца, каб усе падпісаліся на іх.

Цікавы быў сход!

Асабліва дзяткоры і рэдкалегія нашай газэты непакоілася. Правяліць для іх гэты дзень—усёроўна, што выйсьці з піонэраў. Так сказаў мне Мішка—сябра рэдкалегіі.

Павадыра таксама ўсе слухалі ўважліва. Асабліва, калі ён спыніўся на тым, што нам патрэбна зрабіць у гэты час („Дзень друку“ працягнецца з 5 па 20 мая). Нават самыя дурасьлівыя нашы піонэры, як Юрка-Карапуз і Янка-Дзялянка ні разу не перапынілі павадыра, пакуль ня скончыў.

Каб не забыцца, што павінен будзе зрабіць атрад у гэты час (каб пасьля напомніць таварышам; яны ў нас, бачыце, часта забываюцца аб сваіх пастановах), запішу сабе, што сказаў павадыр, што ўхвалілі зрабіць.

— Друкаванае слова—гэта вялікая сіла ў нашым жыцьці і будаўніцтве. Усе нашы недахопы, дасягненьні адзначае газэта і часопісь, праз якія кожны можа іх убачыць і, калі патрэбна, выправіць. Газэта і часопісь кожны дзень знаёміць чытача з навінамі, здарэньнямі, палітычным жыцьцём і г. д.

Але для гэтага кожны павінен чытаць газэту. Газэт і часопісяй выдаецца шмат. Кожная з іх мае на ўвазе пэўную групу чытачоў. Скажам, піонэры, у першую чаргу, чытаюць свае газэты і часопісі, сяляне—„Беларускую Вёску“.

Дзень Друку павінен яшчэ больш шчыльней згуртаваць вакол сваіх выданьняў чытачоў, яшчэ шырэй распаўсюдзіць друкаванае слова.

Для гэтага наш атрад вызначыў наступнае:

1) Выдаць насьценную газэту, прысьвечаную Дню Друку.

Я дакляраваў напісаць у газэту артыкульчык:—як я сабраў 20 падпісчыкаў на часопісь „Беларускі Піонэр“. Пісаць пачну, мусіць, заўтра, бо сёньня позна ўжо.

2) Нашы неорганізаваныя дзеці ня ўсе яшчэ чытаюць і ведаюць пра дзіцячыя газэты і часопісі. Парашылі склікаць сход усіх дзяцей і растлумачыць на ім аб Дню Друку, аб часопісі „Беларускі Піонэр“. Сход будзе скліканы 5-га мая. Хаця-ж бы добрая пагода была, а то з таго канца дзеці ня прыдуць (далёка і гразка).

3) Кожнаму сябру дзяткор-гуртка даручан пэўны лік хат, у якіх патрэбна яму пабыць у гэты час і асабіста з бацькамі дагаварыцца аб выпісцы для іх дзяцей часопісі.

4) Дапамагаць комсамольцам і партыйцам праводзіць вечары, прысьвечаныя Дню Друку і зьбіраць падпіску на газэты сярод сялян. Таксама кожны павінен чытаць газэты сялянам, дзе гэта зручна і растлумачваць тое, чаго яны не зразумеюць.

Ну, здаецца, і ўсё галоўнае.

Ага! Вось так-бы і забыўся яшчэ аб адным... Гаварылі яшчэ і ўхвалілі скарыстаць для організацыі колектыўнае падпіскі „гурткі сяброў неорганізаваных“.

А іх у нас шмат. Вось, скажам, хоцьбы ўзяць наш канец вёскі. Сябруюць між сабой: Юрка, Манька, Тодзік, Алесь, Пятрусь і яшчэ і яшчэ ёсьць такія. Вось, калі растлумачыць ім добра значэньне чытаньня кніжкі, часопісі, яны, напэўна, выпрасяць у бацькоў па 5—10 кап. і выпішуць сваім гуртком часопісь. Паспрабуем. Здаецца, што ўдасца. Думка добрая!

Пасьля Дню Друку напішу абавязкова ў часопісь „Б.П.“, што мы зрабілі з таго, што вызначылі. А цяпер —за працу!

28 красавіка 1927 г.

**Сёмка** па прозьвішчу **Галадрыга.**

# Дзяржаўны гэрб БССР,

## зацьверджаны VIII Усебеларускім Зьездам Саветаў.




Гэрб Беларускай Соцыялістычнай Рэспублікі складаецца з наступных частак.

Серп і молат, зьмешчаныя крыж-накрыж — сымбаль працы і сувязі рабочых і сялян.

Усходзячае сонца, якое сваімі праменьнямі асьвятляе серп і молат, — сымбаль распаўсюджаньня ўлады працоўных на ўвесь сьвет.

Частка зямной кулі, з уключэньнем тэрыторыі БССР, як часткі Саюзу ССР.

Пяцёхканцовая чырвоная зорка—сымбаль сусьветнага соцыялізму.

Вянок, які абкружае вышэйпаказаныя часткі, мае ў левай палове каласы жыта—сымбаль сельскай гаспадаркі, і канюшыну—сымбаль інтэнсыфікацыі сельскай гаспадаркі, а ў правай палове дубовыя галіны—сымбаль ляснога багацьця БССР.

Чырвоная істужка, якой перавіты абедзьве паловы вянка, мае надпісы на ёй на чатырох мовах (беларускай, яўрэйскай, расійскай і польскай) „Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся“ і ініцыялы „БССР“. Характар шрыфту беларускай мовы часткова ў стылю СКАРЫНЫ.

Прамені сонца, якое ўсходзіць з-за зямной кулі, невялікімі прамежкамі падзелены на 7 аднолькавых пучкоў. 7 пучкоў адзначаюць тое, што дзяржаўны гэрб зацьвярджаецца ў 7-ю гадавіну замацаваньня савецкае ўлады ў БССР пасьля вызваленьня яе ад польскіх акупантаў.

# НАША ЖЫЦЬЦЁ.

## Юныя натуралістыя.

Шмат цікавага ў акаляючай нас прыродзе. Вялізарныя лясы з іх таямніцамі і вабячымі да сябе птушкамі, расьлінамі, зьвярамі. Вазёры і рэкі з нязьлічанай колькасьцю рыбі казюлек; у паветры размаітыя птушкі; у полі тысячы розных расьлін.

Мала ёсьць такіх дзяцей, якія не хацелі-б бліжэй пазнаёміцца з гэтым прывабным царствам прыроды. Даведацца і дапытацца, як жывуць зьвяры ў лесе, рыбы ў вадзе, расьліны ў полі.

І вось, гурткі юных натуралістых і маюць на мэце дапамагчы дзецям бліжэй пазнаёміцца з акаляючым нас жыцьцём, вывучыць яго.



Усім гуртком, з невялічкімі групамі, ідуць юнаты ў лес, на бераг рэчкі, на поле, назіраюць жыцьцё, якое там адбываецца, зьбіраюць усё цікавае.

Юныя натуралістыя павінны вывучаць усю прыроду, але наўрад ці знойдзецца хоць адзін гурток, дзе ўсіх дзяцей цікавіла-б адно і тое-ж. Вельмі ўжо рознастайна наша прырода. Адных юнатаў будуць больш цікавіць зьвяры, другіх—жыцьцё ў вадзе, трэціх—расьліны. З гэтае прычыны гурток павінен падзяліцца на маленькія групкі, згодна з зацікаўленасьцю дзяцей той ці іншай галіной прыродных зьяў і іх вывучэньнем. Гэтыя групкі, вывучаючы ўсю прыроду, сваю ўвагу зьвяртаюць на тыя пытаньні, якія іх больш цікавяць.

Але ня толькі дасьледчай працай павінен заняцца гурток юных натуралістых. Не, ён павінен прыняць расільны ўдзел у грамадзка-карыснай працы. Напрыклад: прыхільнікі птушак—прываблiваюць у сваю мясцовасьць карысных птушак, ахоўваюць іх гнёзды, зьнішчаюць драпежнікаў; батанікі *)—арганізуюць і праводзяць „Дзень Лесу“, вядуць працу па ахове лесу і расьлін.

У кожным гуртку трэба імкнуцца стварыць базу для пастаяннае працы. Такой базай можа быць прышкольны вучастак, жывы куток у самой школе, сажалка і інш.

Зловяць юнаты сям'ю якіх-небудзь зьвяркоў ці знойдуць цікавую расьліну, вось і цягнуць на сваю базу, а там іх прабуюць прывучаць к чалавеку, размножыць.

*) Ад слова батаніка—навука пра расьліны.

Гурткі юных натуралістых організоўваюцца пры школах, клюбах, хатах-чытальнях, а гэтак сама і пры базавых групах піонэрскіх атрадаў і піонэрскіх клюбах. Для кіраўніцтва гуртком трэба прыцягнуць настаўніка-прыродазнаўцу, студэнта ці вучня Школы Сялянскай Моладзі. А ўсёй працай юнатаў кіруе комсамол разам з Аддзеламі Нарасьветы. Набліжаецца лета. Каму хочацца ў летні дзень сядзець у душным пакоі? Усіх цягне на вольнае паветра, у шырокае поле, у цянёк лесу. І калі хочаце, дзеці, цікава і карысна правесьці лета, арганізуйце гурткі юных натуралістых.

**В. Башкевіч.**



# Організуем турызм сярод піонэраў.

*(Нарыс).*

* * *

Яшчэ нядаўна, у сакавіку м-цы г. г., пры Ляхаўскім Райбюро ЮП організавалася першая ў БССР група піонэраў-турыстаў. Тое, што адразу ў групу запісалася больш ста чалавек, сьведчыла аб зацікаўленасьці імі турысцкай справай.



Беларускі краявід.

Хутка-ж пасьля ўтварэньня групы адбыўся першы організацыйны сход, на якім дзеці пазнаёміліся з мэтамі турызму.

— Мы павінны навочна вывучыць нашу краіну,—гаварыў кіраўнік групы, старшыня Ляхаўскага Райбюро.—Мала ведаць аб Беларусі толькі па географічных падручніках, трэба і карысна непасрэдна самому азнаёміцца з паасобнымі мясцовасьцямі краіны. Турызм ня толькі пашырыць наш кругагляд, дасьць нам шмат цікавага, але і спрыяе нашаму фізычнаму аздараўленьню.

— Улетку мы будзем рабіць экскурсіі і падарожжы па вёсках і мястэчках Менскай акругі як пехатой, так і на лодках, на падводах і г. д.

Піонэры з вялікай цікавасьцю выслухалі гэтую інфармацыю і тут-жа на сходзе вынесьці пастанову: зрабіць першае падарожжа ў часе вясеньніх вакацыяў (1—10 красавіка). Месцам для паездкі быў вызначан гор. Барысаў.

Сказана—зроблена. Назаўтра-ж распачалася падрыхтоўчая праца: школы наладжвалі платныя вечары, таксама дапамаглі сродкамі рэдакцыя газэты „Дэр Юнгэр Піонэр“ і Менакрана. Так „па нітачцы“—150 руб.

Для паездкі была вызначана група ў складзе 20 піонэраў і 5 павадыроў. Група падзялілася на наступныя камісіі: гаспадарча-культурную, організацыйную, рэдакцыйную і мастацкую.

Трэцяга красавіка нашы маладыя турысты выехалі з Менску ў Барысаў, дзе прабылі 7 дзён.

За гэты час сябры групы шмат чаго пасьпелі зрабіць: дасканала вывучылі гор. Барысаў і яго акраіны, наведалі фабрыкі і заводы, мясцовыя помнікі з гісторыі культуры, азнаёміліся з працай піонэрскай організацыі і школ. Усё, што бачылі ў часе свайго падарожжа члены групы, іх уражаньне і г. д., своечасова занатоўвалася ў асобны дзеньнік, які вёў па чарзе кожны турыст.



Такім чынам зложыўся багаты матар'ял на 30 сшытках.

**Я. Зэльцар.**

## Зрабілі радыё-прыёмнік.

Піонэры мястэчка Ляды (Аршаншчына) з вялікай цікавасьцю чытаюць кожны нумар „Беларускага Піонэра". Прачытаўшы ў адным з мінулых нумароў артыкул „Як самому пабудаваць радыё-прыёмнік", піонэры па гэтаму артыкулу ўзяліся пабудаваць прыёмнік. Сказана—зроблена. Зараз па радыё мы слухаем перадачу з Масквы, Менску і іншых гарадоў.

Так пры дапамозе „Беларускага Піонэра" зрабілі мы сабе радыё-прыёмнік.

**В. Чарот.**

## Ад гутаркі да справы.

*(„Чырвоная Слабада", Слуцк. акругі).*

З тае прычыны, што ўжо надыходзіць лета, у нас на атрадных і зьвенавых сходах праводзяцца гутаркі аб тым, як трэба даглядаць сад, дзеля чаго належыць чысьціць насеньне, чым піонэры могуць дапамагчы ў пасяўной кампаніі і г. д. Усе гутаркі вядуцца аграномам.

Акрамя таго, на занятках зьвяна мы вучымся пераплятаць кнігі.

Піонэр **У. Шчарбовіч.**

# ЗА ПАШЫРЭНЬНЕ СВАЕ ЧАСОПІСІ.

## Замест 1—36.

*(Валынцы, Полацкай акругі).*

Калі ўперад у нашым мястэчку выпісваўся толькі адзін экзэмпляр часопісі „Б.П.", дык зараз мы маем зусім іншае становішча. Падпіска на часопісь сярод нашых піонэраў і вучняў значна ўзрасла і зараз дасягае 36 экз.

Усе нашы вучні зразумелі карысьць часопісі, і ведаюць, што пад яе кіраўніцтвам яны змогуць выхавацца належным чынам.

Дзяткор **А. Рубін.**

## Па 5 экз. на зьвяно.

*(Мястэчка Старобін, Случчына).*

Значнай перашкодай для пашырэньня „Беларускага Піонэра" да гэтага часу ў нашым мястэчку зьяўляўся нерэгулярны выпуск часопісі, а таксама і высокая цана яе.

Цяпер, калі „Беларускі Піонэр" выходзіць ужо 2 разы ў месяц і каштуе ўсяго 20 кап., падпіска павялічылася ў шмат разоў. На кожнае зьвяно выпісваецца ня менш 5-ці экз.

Па прыкладу піонэраў пачынаюць цікавіцца часопісьсю і выпісваць яе нават неорганізаваныя.

**Д. Рыклін.**

## „Бел. Піонэр" у школе.

*(2-я Петрыкаўская сямігодка).*

Раней у нашай школе ня выпісваўся ніводзін экз. часопісі. На гэта зьвярнуў сваю ўвагу форпост і прыняў шэраг мер па пашырэньню дзіцячага друку наогул і „Беларускага Піонэра" ў прыватнасьці. Быў вылучан спэцыяльны ўпаўнаважаны па друку, які праводзіць падпіску сярод вучняў школы.

У выніку гэтых мерапрыемстваў падпіска на „Беларускі Піонэр" значна ўзьнялася і дасягае ў сярэднім у месяц 75 экзэмпляраў.

**Арон Малочнік.**

# Карысныя парады.

### Просты спосаб ад пчалінага пакусаньня.

Ня гледзячы на сетку і рукавіцы, рэдка калі ўдаецца выйсьці не пакусаным ад пчол.

Наступны просты сродак зьнішчае боль і вопухаль. Для гэтага трэба ўзяць кавалак нягашанай вапны і апусьціць яго ў ваду. Калі вада зробіцца празрыстай, трэба асьцярожна выліць яе ў бутэльку.

Месца ўкуса моцна націраюць гэтай вадой. Боль зьнікае раптоўна, і вопухаль не зьяўляецца, бо вада з вапнай зьнішчае пчаліны яд.

З часопісі **„Пчеловодный мир".**

# За вушка ды напаказ.

**„Разумны“.**

— Якое ты маеш права са мной спрачацца? Няўжо ня ведаеш, што я ў шмат разоў вышэй і разумней за цябе?!

Гэтак „навучае“ сваіх піонэраў павадыр Мілаславіцкага атраду. Дазвольце прывесьці яшчэ адзін факт, каб паказаць, у якім становішчы знаходзіцца „розум“ нашага павадыра.

— Хлопцы! Хто ведае, у якім годзе памёр Ленін?—пытаецца на сходзе павадыр.—Ну, кажы, Вінцусь! „У 1922“. А ты, Янка, думаеш, што ў 1924? Цішэй, не сварэцеся! Зараз мы вырашым галасаваньнем, хто з вас правы.

— Хто за тое, каб лічыць Леніна памёршым у 1922 годзе—паднімеце рукі. Апусьцеце. Хто супроць?.. Большасьцю галасоў праходзіць думка Янкі. Ты, Вінцусь, нязгодзен? Нічога, браток, ня зробіш, сход пастанавіў. Эй, сакратар, так і занатуй у пратаколе,—цьфу! памыліўся,—дзеньніку...

Добра, што хоць большасьць піонэраў не памылілася ў гэтым пытаньні. Вось пасьля такіх фактаў і вельмі цяжка гаварыць аб яго „разумовых“ здольнасьцях. Падарваў зусім свой „разумовы“ аўторытэт!

**„Неорганізаваныя“ піонэры.**

Вам цікава ведаць, чым адрозьніваюцца некаторыя барысаўскія піонэры ад неорганізаваных дзяцей? Паслухайце, што піша аб гэтым наш дзяткор:

„... Яны (піонэры) ніколі ня носяць гальштукаў, не аддаюць адзін другому салютаў і г. д. Наогул, дурэюць, як тыя неорганізаваныя“.

Ці ведаюць аб гэтым павадыры атрадаў? можа зьявіцца ў вас запытаньне. Нам здаецца, што калі мы ўжо даведаліся, дык павадыры ва ўсякім разе павінны былі ведаць раней за нас. Прыняць належныя меры ніколі ня позна.

Дзяткор, які напісаў нам аб гэтым, дадае, што памянёных піонэраў цяжка адрозьніць ад неорганізаваных дзяцей. Ды вось за гэта мы друкуем аб іх у часопісі. Няхай чытачы нашы ведаюць, што гэта піонэры, а не неорганізаваныя.., піонэры.

**„Карысны“ занятак.**

Сумны лёс спавіў піонэраў вёскі Макаўчыцы, Койданаўскага раёну. Аддаючы сваіх дзяцей у піонэры, бацькі спадзяваліся, што з іх выхаваюць разьвітых сьвядомых дзяцей, а ніяк не сабакароў.

Як паведамляе ў сваім допісе дзяткор Папраўка, піонэры знайшлі сабе досыць „карысны“ занятак. „Кожны вечар, замест таго, кабісьці на заняткі зьвяна, яны бегаюць з каламі па вуліцах і дражняцца з сабакамі“.

Па чутках, жыцьця ня стала ад піонэраў макаўчыцкім сабакам. Яны просяць мясцовую ячэйку ЛКСМБ пашкадаваць іх і даць піонэрам больш карысную нагрузку.

Хоць і сабакі, а падалі разумную думку.

**Мікраскоп.**



# ВЫВУЧАЙ СВОЙ КРАЙ.

### 1. Краязнаўства ў школе.

Усякі вучань рыхтуецца стаць будаўніком жыцьця. Ясна, што быць ім ён ня зможа, калі ня будзе вывучаць і дасьледаваць свой край. А дзеля таго, што жыцьцё мяняецца—прыходзіцца вывучаць яго заўсёды. Адсюль відаць, што вучань павінен навучыцца дасьледаваць свой край і яго жыцьцё, каб умець дасьледаваць і тады, калі стане сталым працаўніком. Навучыцца-ж гэта рабіць можна толькі такім спосабам, якім вучацца і іншай працы, гэта значыць, робячы тое, чаму вучышся. Калі вучацца сталярству, бандарству, кавальству або баранаваць ці іншаму чаму, дык робяць гэта куючы, барануючы і г. д. Часамі старэйшы майстар дае рады вучню. Вось такім самым чынам на практыцы трэба вучыцца і краязнаўчай працы, атрымліваючы інструкцыйную дапамогу ад мясцовых краязнаўчых організацый. Дзеля сувязі найлепшага плянаваньня ўсёй краязнаўчай працы ў данай мясцовасьці, а таксама атрыманьня дапамогі, лепш за ўсё ўвайсьці ў склад членаў мясцовага гуртка або таварыства краязнаўства. Зрабіць гэта вельмі проста: падаць заяву ў праўленьне гэтай організацыі, запоўніць анкету і вызначыць працу.



Краявід Палесься.

### 2. Гурток краязнаўства.

Калі краязнаўчай організацыі няма або яна далёка, ці па іншых прычынах быць членам яе будзе трудна або немагчыма—трэба заснаваць такую організацыю. Гурток краязнаўства будзе найлепшаю формаю такой організацыі. Яны організоўваюцца пры школах, піонэрскіх клубах. Для організацыі гуртка трэба ня менш пяці чалавек, якія жадаюць працаваць у гуртку. Вызначыўшы пэўны лік жадаючых увайсьці ў гурток і працаваць, трэба склікаць сходку. На ёй неабходна прыняць статут, так кажучы, конституцыю гуртка. Гэта трэба для таго, каб кожны ведаў задачы гуртка і яго пабудову, а таксама свае абавязкі. Статут гуртка можна знайсьці ў любой краязнаўчай організацыі *).

### 3. Першыя крокі гуртка.

Прыняўшы статут, вызначыўшы межы тае мясцовасьці, якую ўзяліся вывучаць, гуртку трэба намеціць плян бліжэйшай працы, якая будзе па сілах. Плян вельмі карысна ўзгодніць з праўленьнем бліжэйшага раённага або акруговага таварыства краязнаўства. Аб заснаваньні гуртка проста неабходна чым хутчэй паведаміць іх і скарыстаць іх парады, а быць можа, і атрымаць кіраўніка. Калі кіраўніка ня зможа прыслаць краязнаўчае таварыства — прыдзецца знайсьці самім. Пажадана, каб гэтакі быў адукаваным чалавекам: настаўнік, фэльчар і г. д. Зразумела, што калі і такога ня знойдзецца,—тады трэба будзе распачаць працу самастойна і часьцей пісьмова зносіцца з раённым або акруговым таварыствам краязнаўства.

### 4. Краязнаўчая праца.

У сталым пляне працы прыдзецца вызначыць дакладна, што ў бліжэйшыя тры або шэсьць месяцаў гурток зможа зрабіць. Надта разганяцца ня варта, а браць толькі тое, што сапраўды можна зрабіць. Вывучаць трэба ўсё, што толькі можна ўбачыць і пачуць у сваім краі. Але ўсяго зразу ня зробіш. Ды і ня ўся краязнаўчая праца будзе па сілах.

---

*) Статут надрукаваны ў часопісі „Наш Край“ № 2 за 1927 г. і ў часопісі „Асьвета“ № 8 за 1926 г.

Каб выканаць тую або іншую краязнаўчую працу цалкам, трэба:

1) Сабраць чым пабольш нагляданьняў;

2) Прывесьці гэтыя нагляданьні ў належны парадак і

3) Зрабіць адпаведныя вывады.

Спачатку трэба будзе навучыцца першай працы. Пакуль вучань-краязнаўца не навучыцца далейшым ступеням працы, ён здае свае зборы мясцовай краязнаўчай арганізацыі або пасылае іх Цэнтральнаму Бюро Краязнаўства па адрасу: *Менск, Рэволюцыйная вул., 21.*

Перасылка туды па пошце, як лістоў, так і матар'ялаў—бясплатная. Самая маленькая краязнаўчая праца зьяўляецца навуковым творам і вельмі каштоўная.

### 5. Што дасьледаваць.

У пачатку дзейнасьці гуртка прыдзецца абмежавацца зборам матар'ялаў. Кожны член гуртка можа выбраць сабе найбольш любімую справу і зьбіраць колекцыю рэчаў з яе. Зьбіраць можна такія колекцыі:

1) матылькоў; 2) шкоднікаў поля, саду, агароду і г. д.; 3) насеньня; 4) траваў; 5) дрэваў; 6) лісьцяў; 7) тканінаў; 8) паяскоў; 9) цацак; 10) палак з украсамі; 11) паштовых марак; 12) грошай; 13) малюнкаў і г. д.

Гэткі сьпіс можна было-б працягнуць бясконца. Усё, што можна знайсьці ў мясцовым краі, трэба зьбіраць. Пры гэтым неабходна клапаціцца, каб збор быў поўным, гэта значыць, каб у ім былі ўсе чыста рэчы тае галіны, з якой зьбіраецца колекцыя.

### 6. Як дасьледаваць.

Каб сабраны матар'ял меў вартасьць, трэба зьбіраць яго з адзначэньнем: 1) мясцовай назвы кожнай рэчы; 2) дзе яна ўзята (сяло, сельсавет, раён, акруга); 3) калі (дзень, месяц, год) і 4) хто зьбіраў (імя і прозьвішча). Лепш за ўсё зьбіраць гэтыя весткі на картцы і прымацаваць да рэчы, і каб лягчэй было знайсьці яе, трэба будзе паставіць нумар і запісаць у сьпіс.

Больш падрабязныя правілы збору павінен расказаць кіраўнік, або іх можна прачытаць у часопісі „Наш Край“, якая ёсьць ва ўсіх краязнаўчых гуртках і таварыствах.

### 7. Падарожжы, экскурсіі, вандраваньні.

Для таго, каб лепш вывучаць жыцьцё свае мясцовасьці і параўнаць яго з іншым—карысна зрабіць падарожжа ў другі край, акругу, а то і краіну. Але для этага трэба сродкі. Затое экскурсія па сваёй мясцовасьці: на поле, у лес, на фабрыку і г. д. не патрабуе грашовых трат і можа адбыцца зразу вялікім лікам вучняў-краязнаўцаў. Перад пачаткам сталай працы па дасьледаваньню сваёй мясцовасьці экскурсіі вельмі карысны. Яны ў агульных рысах пазнаёмяць вучняў-краязнаўцаў з сваёй мясцовасьцю, пакажуць на што хутчэй за ўсё трэба зьвярнуць увагу і г. д.

Пры сталай-жа працы краязнаўцаў-вучняў, побач з экспэдыцыямі, вялікую карысьць дадуць вандраваньні па сваёй мясцовасьці. Адзін або некалькі вучняў-краязнаўцаў дні два-тры, а то і больш вандруюць па сваёй мясцовасьці. У час вандраваньня яны знойдуць той матар'ял, якога часта ня зможа знайсьці вучоны. Шмат прыгожага адчыніцца яму і ў палескім краявідзе, і ў аршанскім, і ў вялікім шляху, і ў сваім горадзе здалёку, і ў шмат чым іншым. У часе вандраваньня вучні-краязнаўцы будуць загартоўвацца фізычна, а таксама выхоўвацца социяльна. Для гуртка краязнаўства можа быць карысьць з таго, што вучань-краязнаўца ў часе вандраваньня завяжа сувязі з іншымі краязнаўцамі і адшукае жадаючых быць такімі.

**М. Касьпяровіч.**



# ВЫГОДНАЯ ЗЬДЗЕЛКА.

I.

Да багача мiлiонэра зьявiўся аднойчы невядомы чалавек i прапанаваў зрабiць з iм грашовую зьдзелку.

— З заўтрашняга дню,—сказаў незнаёмы,—я буду ўвесь месяц прыносiць табе штодзенна па тысячы рублёў.

Мiлiонэр слухаў, спынiўшы дыханьне. Незнаёмы замоўк.

— Ну, гавары-ж! Што хочаш за гэта атрымаць?

— У першы дзень заплацiш за тысячу рублёў усяго адну капейку.

— Адну капейку?—перапытаў багач, думаючы, што не дачуў.

— Адну капейку. За другую тысячу заплацiш дзьве капейкi.

— Ну, — нецярпелася мiлiонэру. — А далей?

— А далей: за трэцюю тысячу—4 капейкi, за чацьвертую—8, за пятую—16. I гэтак увесь месяц, кожны дзень падвойваючы суму супроць папярэдняга.

„Тысячы рублёў за капейкi аддае... Напэўна грошы фальшывыя, альбо ня пры поўным розуме чалавек“, падумаў багаты.

II.

Назаўтра ранiцай пастукаў у вакенца ўчарашнi госьць.

— Грошы падрыхтуй!—Кажа.—Я свае прынёс.

I сапраўды, пачаў выкладаць грошы—праўдзiвыя, нефальшывыя паперкi. Адлiчыў роўна тысячу i кажа:

— Вось мае па ўгавору. Цяпер твая чарга плацiць.

Багаты палажыў на стол мядзяную капейку i, баючыся, чакаў: возьме госьць яе цi раздумае, сваю тысячу назад запатрабуе.

Незнаёмы аглядзеў капейку, паважыў у руцэ i схаваў у кашалёк.

— Заўтра ў такi-ж час чакай.

Багач ня верыў удачы: тысяча рублёў з неба звалiлася!

Ноччу ўзяло сумненьне: цi не разбойнiк прасьцяком прыкiнуўся, хоча паглядзець, куды грошы хаваю, ды аграбiць? Замкнуў багач дзьверы наймацней, з вечару ў вокны паглядаў, прыслухоўваўся, доўга заснуць ня мог.

Ранiцаю зноў стук у вакно: незнаёмы грошы прынёс. Адлiчыў поўную тысячу, атрымаў дзьве капейкi, схаваў iх у кашалёк i вышаў.

Пад канец тыдню атрымаў наш багач ужо 7 тысяч рублёў, а заплацiў глупства:

1 кап. + 2 кап. + 4 к. + 8 к. + 16 к. + + 32 к. + 64 к. = 1 р. 27 к.

А незнаёмы па даўнейшаму акуратна зьяўляўся кожнаю ранiцаю са сваёю тысячаю. На восьмы дзень ён атрымаў 1 р. 28 к., на 9-ы—2 р. 56 к., на 10-ы—5 р. 12 к., на 11-ы—10 р. 24 к., на 12-ы—20 р. 48 к., на 13-ы—40 р. 96 к., на 14-ы—81 р. 92 к.

III.

Але далей пайшло горш.

| | | | |
|---|---|---|---|
| За 15-ую тысячу | . . | 163 р. | 84 к. |
| „ 16-ую | „ . . | 327 „ | 68 „ |
| „ 17-ую | „ . . | 655 „ | 36 „ |
| „ 18-ую | „ . . | 1.310 „ | 72 „ |
| „ 19-ую | „ . . | 2.621 „ | 44 „ |
| „ 20-ую | „ . . | 5.242 „ | 88 „ |
| „ 21-ую | „ . . | 10.485 „ | 76 „ |
| „ 22-ую | „ . . | 20.971 „ | 52 „ |
| „ 23-ую | „ . . | 41.943 „ | 04 „ |

За адну толькi 23-ю тысячу мiлiонэр заплацiў больш, чым атрымаў за ўвесь месяц.

Наступiў апошнi тыдзень месяцу—i гэтыя 7 дзён ушчэнт зьнiшчылi нашага мiлiонэра. Сапраўды, ён заплацiў:

| | | | |
|---|---|---|---|
| За 24-ую тысячу | . | 83.886 р. | 08 к. |
| „ 25-ю | „ . | 167.772 „ | 16 „ |
| „ 26-ю | „ . | 335.544 „ | 32 „ |
| „ 27-ю | „ . | 671.088 „ | 64 „ |
| „ 28-ю | „ . | 1.342.177 „ | 28 „ |
| „ 29-ю | „ . | 2.684.354 „ | 56 „ |
| „ 30-ю | „ . | 5.368.709 „ | 12 „ |

Калi госьць пайшоў апошнi раз, мiлiонэр падлiчыў, колькi абышлiся яму гэтак танныя на першы погляд 30 тысяч рублёў. Выявiлася, што заплачана было незнаёмаму 10.737.418 р. 23 к.

**Я. Пэрэльман.**

# ПІОНЭРСКАЯ ХРОНІКА.

*(З лістоў дзяткораў).*

**На гэтых днях** Стрэшынская раённая піонэрорганізацыя, Бабруйскай акругі, адсьвяткавала 3-хгадовы юбілей свайго існаваньня.

**Я. Астроўскі.**

**Добра працуе** школьны коопэратыў пры Заслаўскай сямігодцы. У коопэратыве маюцца ўсе рэчы, патрэбныя для піонэраў і вучняў.

**Э. Сасінскі.**

**За кароткі** час значна вырас Коханаўскі атрад (Аршаншчына). Мы маем зараз 69 піонэраў, 11 з якіх—комсамольцы.

**Юрка Захараў.**

**Вучні Караваеўскай школы** (Рудзенскі с/с., Сьмілавіцкага раёну) прыносяць падзяку свайму шэфу за тое, што выпісаў ім часопісь „Беларускі Піонэр".

**Касач.**

**Раней нашы бацькі** (Дрыбінскі атрад ЮП) перашкаджалі дзецям хадзіць у атрад і пасылалі іх у царкву. А зараз наадварот. Піонэры сваёй працай выклікалі прыхільнасьць з боку бацькоў і нават атрымалі ад іх грошай на выпіску літаратуры.

**Дзяткор.**

**Паслаў лісты замежным піонэрам** 11-ы Рагачоўскі атрад, Бабруйскае акругі. Спадзяёмся хутка атрымаць адказ.

**Б. Шмідкін.**

**Пры Старобінскай сямігодцы** існуюць гурткі: політычны, краязнаўчы, сельска-гаспадарчы і літаратурны. Гурткі яднаюць у сваіх шэрагах шмат вучняў.

**М. Воршаў.**

**Кепска працаваць бяз клюбу** піонэрам мястэчка Круглае (Аршаншчына). Мы з нецярплівасьцю чакаем лета, калі можна будзе праводзіць заняткі на вольным паветры.

**Дзяткор.**

## ПІОНЭРЫ! ВУЧНІ!

Чарговы нумар „Беларускага Піонэра", будзе прысьвечан 5-х гадоваму юбілею піонэрскай організацыі СССР і Беларусі.

У часопісі будуць зьмешчаны нарысы з жыцьця піонэрскай организацыі СССР і БССР.

Кожны піонэр павінен ведаць гісторыю свае організацыі, аб гэтым чытайце у № 9 „Беларускага Піонэра".

**Сабралі звыш чатырох рублёў грошай** піонэры і вучні Круглянскай сямігодкі на карысьць дзяцей Заходняй Беларусі.

**Я. Крэмар.**

**Другі Чэрыкаўскі атрад** паставіў сваімі сіламі платны спэктакль на карысьць бяспрытульных, якім на выручаныя сродкі куплена вопратка і вучнёўскія прылады.

**Організавалі галосныя чыткі газэт** сялянам у хаце-чытальні старэйшыя піонэры Шароеўскага атраду.

**У.**




### Жарт.

— Дзе ты, Яначка, сьвітку так вымазаў? Увесь бок і зад у гразі...
— Яна, мамка, звалілася ў мяне!
— Дык ты-ж мог яе згубіць!..
— Не! Яна была зашпілена на ўсе гузікі.

### Задача № 1.

| | | | |
|---|---|---|---|
| у | д | | з |
| | а | ь | |
| ў | | о | і |
| | э | о | |

У пустыя клеткі паставіць літары: б, г, н, п, т, р; пасьля пераставіць слупкі так, каб можна было прачытаць піонэрскі лёзунг.

### Задача № 2.

З якіх двох нот складаецца лёс?

### Шарада.

Пачатак—у шахматах знойдзеш,
Канец—француская рака,
А ўсе—жаночае імя.

### Галаваломка.

Два бацькі і два сыны падзялілі паміж сабой тры рублі так, што кожны з іх атрымаў па аднаму рублю. Якім чынам гэта здарылася?

### Задачка літар № 3.

| | | |
|---|---|---|
| р | у | ж |
| м | ы | с |
| б | о | г |

Знайдзеце ў гэтых літарах 7 слоў, якія маюць наступнае значэньне: 1) Рака БССР, 2) Рака Зах. Беларусі, 3) Заходня-Эўрапэйскі горад, 4) Рыба, 5) Лес, 6) Нуда, 7) Харчавы прадукт.

---

## ЗЬМЕСТ



---

1-ая Дзярж. друкарня. Заказ № 2009. Галоўлітбел № 25367.